Новыя імены у "РОКАШЫ"

Віктар Сіучык

# ГІБРЫДНЫ "СУВЕРЭНІТЭТ" І ЯГО ФАТАЛЬНЫЯ НАСТУПСТВЫ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Многія палітыкі і публіцысты забыліся пра тое, як на працягу дзесяцігоддзяу назва СССР спалучалася з прапагандысцкім клішэ "федэрацыя новага тыпу". З энтузіязмам і настойлівасцю вартымі іншага прымянення нас клічуць зараз аб'яднацца у" абноуленую " федэрацыю ( гістарычную пераймальнасць варт бы сфармуляваць у больш поунай назве: "абноуленая федэрацыя новага тыпу") Пры гэтым супрацiунікі федэратыунай пабудовы заяуляюць, што іх крытыка дарэмная, што яны яшчэ у "абнауленцы" не жылі, а таму не паспрабаваушы новы шлях не сумнявайся у добрых намерах лоцманау будучай дзяржавы. Як тут не прыпомніць два выказванні: " Добрымі намерамі выбрукаваны шлях у пекла " і " не ведаючы броду не лезь у воду ".

Сапрауды, мы набылі вялікі вопыт у разуменні і распрацоуцы механізмау функцыянавання старой " федэрацыі новага тыпу ", затрацiушы на разбуральнае" стварэнне ", на трагічны для большасці народау эксперымент больш 70 гадоу. Наш дослед унікальны, паколькі не зводзіцца да класічных імперска-каланіяльных форм. Абяцае быць унікальным і новы эксперымент па абнауленню федэратыунай пабудовы, паколькі ставіцца задача сумясціць суверэнітэт рэспублік і звыш суверэнітэт Цэнтра.

Парад суверэнітэтау адпаведна гэтаму замяняецца гібрыдам суверэнітэту. Ізноу каторы ужо раз, адкідваецца тое, што выпрацавана сусветнай гісторыяй: саюз дзяржау. Ізноу спадзяюцца на спецыфіку, на іншы гістарычны шлях.Ізноу вынайходзяць "вела... суверэнітэт", цяжкасць руху на якім відавочна ужо на стадыі "тэхнічнага праекта".

Варта было б унесці адназначнасць.

Колькі адводзіцца гадоу, і хто нясе адказнасць? Наконт адказнасці ясна: народ на рэферэндуме павінен узваліць яе на свае плечы. Горш з тэрмінам, паколькі маюцца гістарычныя падставы меркаваць, што не кожнаму народу адпушчаны наступныя 50-70 гадоу "абнауленнай федэрацыі". Беларускі этнас пасля 70-гадовага эксперыменту з "федэрацыяй новага тыпу" пераступіу гранічную рысу,характэрную для складаных сістэм,калі звышпрыгнечаны узнауленчыя сілы,закладзеныя у сістэме для яе захавання і развіцця. У гэтым выпадку разбурэнне і пагібель сістэмы можа стаць непазбежнай. Так высечаны да адпаведнай ступені лес знікае незалежна ад пазнейшай у ім дзейнасці дрывасека і лесаудладкавальнікау, таму што адбываюцца незваротныя пераутварэнні складанай экасістэмы: лес- глеба- вада і г.д. Яшчэ больш тонкай з'яуляецца раунавага, дазваляючая існаваць народу. І у гэтым выпадку разбурэнні могуць быць гэткімі ж фатальнымі і незваротнымі.

Унітарны характар СССР зараз нікім не аспрэчваецца. Была дасягнута звышцэнтралізацыя кірауніцтва з Масквы важнейшымі сферамі жыцця: палітыкай эканомікай, абаронай, дыпламатыяй, адукацыяй, культурай і г. д. У выніку узурпацыі улады Цэнтрам беларускі народ, як сведчыць гісторыя і бліжняя да нас сучаснасць аказаусяя пазбауленым магчымасці не толькі абараняць нацыянальныя інтарэсы у пералічаных вышэй абласцях: ад палітыкі да культуры, але і у самой пастаноуцы і абмеркаванні жыццева важных праблем.Дысягнуты прымат агульнадзяржаунага над нацыянальным і агульначалавечым дазваляу дзяржаве дзеля агульнасаюзных мэтау "ігнараваць інтарэсы і гвалтаваць волю як аддзельнай асобы і сацыяльнай групы, так і цэлых народау".

Духоуны крызіс, у якім у выніку больш чым 200-гадовай польска-расейскай экспансіі апынууся беларускі народ, знайшоу свае завяршэнне у СССР татальнай дэнацыяналізацыяй беларусау. Гэта не магло у сваю чаргу не прывесці да узмацнення безабароннасці беларускага этнаса у рамках федэрацыіи новага тыпу (як раней называуся СССР) ва умовах дыктата Цэнтра.

Да чаго гэта прывяло Беларусь? Разгледзім найбольш трагічныя дасягненні апошніх 70-гадоу.

## 1. Народ, мова, культура.

На працягу 20-га стагоддзя назіраецца узрастанне колькасці насельніцтва (амаль удвая) усіх суседніх з беларусамі народау: рускіх, палякау, украінцау і г. д. Натуральны прырост у Беларусі быу не ніжэй (нават вышэй), чым у суседзяу. Нашы суседзі таксама удзельнічалі у двух сусветных войнах і падпалі пад сталінскі тэрор і генацыд. У Расійскай імперыі у пачатку сагоддзя беларусы (вызначаныя па моунаму прынцыпу) складалі 8-10 міліенау чалавек. Пад канец стагоддзя у БССР нас стала, згодна з апошнім перапісам 8 млн чалавек.

Адпаведна, да характэрнага у суседніх народау падвaення насельніцтва не хапае 8-12 млн чалавек. Гэта самая страшная плата беларускага народа за бязпраунае "федэратыунае" становішча БССР у 20-стагоддзі у складзе Саюза. Нават у Расійскай імперыі развіцце беларускага этнасу прайходзіла у адпаведнасці з эвалюцыяй, у рамках натуральных працэсау, вядучых, як сведчыць статыстыка і гісторыя да ягонага росту, умацаванню, культурнага і нацыянальнага пад'ему. Пытанне пра выраджэнне і пагібель 10 мільеннага народу (іменна столькі людзей карысталіся беларускай мовай у пачатку 20 стагоддзя) было не прадказуема і магло прысніцца толькі у Вжахлівым сне. За 80 год сон пертварыуся у яву. Толькі неверагодная катастрофа магла бы згубіць народ і нацыянальную культуру, даказаушыя сваю жыццевую устойлівасць, тэндэнцыю самаразвіцця на працягу больш, чым 700-гадовай гісторыі. Аднак заміж росту (да 20 млн.) і развіцця (тэндэнцыя усяго 19-га і пачатку 20-га стагоддзя) мы апынуліся на парозе 21-га ст. ля апошняй рысы: быць ці не быць беларускаму народу.

Сфера ужывання беларускай мовы і прастора беларускай культуры у 20-м стагоддзі скарацілася у 10 разоу: з 10 млн. у Расійскай імперыі да 1 млн у 1990 годзе. Калі пільнавацца вызначэння нацыянальнасці, зыходзячы з мовы ( адпаведна Далю ) то відавочна глыбіня нашай духоунай і нацыянальнай катастрофы, наступствам якой стане поуная асіміляцыя і знікненне беларускага народа у абноуленай федэрацыі у пачатку 21 стагоддзя.

## 2. ТЭРЫТОРЫЯ

Пачынаючы з Брэсцкага міра, усе абмеркаванні і рашэнні пытанняу аб межах СССР з Германіяй, Польшчу і Літвой прайходзілі не толькі без уліку беларускіх інтарэсау, але і без удзелу на перамовах прадстаунікоу Беларусі. Тэрытарыяльныя прэтэнзіі Польшчы і Літвы на Беларускія землі не атрымалі патрэбнага адпору. Ды і Расія адхапіла ладны кавалак. У выніку у 1920 годзе да Расіі адходзяць Смаленшчына і Браншчына, у 1940 годзе СССР перадае Вільню і Віленскі край Літве, а пасля другой сусветнай вайны - Беластокскае ваяводства Польшчы. Вядома, што Вільня і край больш чым 700 гадоу заселены славянскім племем крывічы (продкі беларусау). Яшчэ у 14 стагоддзі Вігонт Марбурскі у нямецкай хроніцы успамінае рускі горад Вільню, а Уладзімір Манамах трапіушы на Смаленшчыну для арганізацыі барацьбы супраць Усяслава Чарадзея ужо у той час заувважыу што смаляне гавораць у многіх словах заміж "в"-"у": "улез у ваду", "увайшоу у лес" і г.д. На пачатак 20 стагоддзя у Віленскім краі жыло 65 працэнтау славян (57пр.беларусау + 8пр.палякау) і 17пр.літоуцау (галоуным чынам у паветах, прымыкаючых да Жмудзі). На большай жа частцы тэрыторыі края і у горадзе Вільні літоускае насельніцтва не дасягала і 1 працэнта.

Створаны талентм і векавечнай працай, выпеставаны клопатамі, любоую і воляй дзесяткау пакаленняу нашых прашчурау горад Вільня займау у гісторыі і культуры славянскага свету адно з відных мейсц. Уваходзячы у пленяду такіх славянскіх архітэктурных і культурных скарбау, як Прага, Кракау, Варшава, Пецярбург, Масква і Кіеу (але ніколі у пераліку Рыга, Талін, Вільнюс) ен на працягу многіх стагодзяу быу расчыненымі дзвярыма усходняга славянства у еурапейскую цывілізацыю. Дастаткова успомніць кнігі Францішка Скарыны, прызначаныя для задавальнення дудухоунага попыту усходніх славян і старэйшы універсітэт (першы на тэрыторыі СССР, Віленскі), абсалютную большасць студэнтау і выкладчыкау якога складалі выхадцы з беларускіх зямель (гл. Л.Дробау "Беларускі жывапіс у 16-19 стагоддзях").

Такім чынам, рашэнне, прынятае 50 гадоу назад у нетрах гітлерауской і сталінскай адміністрацыі прывяло да адной з самых страшных культурна-эканамічных і палітычных катастроф не толькі у гісторыі беларускага народа і суседніх - польскага, рускага і украінскага, але і для славянскага свету.

## 3. ЭКАЛОГІЯ І ЭКАНОМІКА

Каланіяльнае панаванне цэнтральных міністэрствау і ведамствау характарызуецца імкненнем кампенсаваць нізкую эффектыунасць эканамічнай дзейнасці за кошт драпежнай эксплуатацыі працоуных і прыродных рэсурсау Беларусі. На пажыву і знішчэнне ваенна-прамыслова-аграрнаму Молаху бясплатна аддадзены здароуе мужчын, жанчын і дзяцей, зямля, паветра і воды выкарыстоуваемые для асаджэння і пераносу бясконцага патоку агрэсіуных хімічных і радыеактыуных рэчывау.

Беларускі народ-працаунік, загнаны у шкодную вытворчасць у цэхах і на фермах звыш усялякай меры аплочвае сваім здароуем і здароуем сваіх дзяцей ствараемыя матэрыяльныя каштоунасці, большая частка якіх прысвойваецца цэнтральным урадам.

Аднак ва умовах таталітарнага рэжыму у рамках унітарнага "саюза", як сведчыць наш больш,чым на паустагоддзе эксперымент немагчыма абараніць жыцце і здароуе народа, стаушага заложнікам эканамічнага звышэгаізма цэнтральных міністэрствау. Больш таго, манаполія на сродкі інфармацыі у суладдзі са шматгадовай палітыкай сакрэтнасці, а таксама не якасны, а часцяком і не аб'ектыуны характар навукова-медыцынскай, экалагічнай экспертыз, прывялі да такога становішча, калі разбурэнне прыроды і пагібель этнаса не суправаджаюцца нават пратэстам. Беларускі народ пераступіу грань эка-

